


# ВЕДАМАСЦІ

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**20 студзеня 1993 г.** **№ 3(77)** **Выдаюцца з 1990 г.**


### ЗМЕСТ

*Законы і пастановы, прынятыя на дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання*

30. Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб унясенні змяненняў у Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб транзітным падатку».
31. Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб унясенні дапаўнення ў Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 снежня 1991 года «Аб увядзенні ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб плацяжах за зямлю».

* *
*

32. Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб пераводзе гаспадарчых судоў на самастойнае фінансавае абслугоўванне.
33. Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Азербайджанскай Рэспублікай, Рэспублікай Арменія, Ісламскай Рэспублікай Іран, Ліванскай Рэспублікай, Літоўскай Рэспублікай, Рэспублікай Малі, Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікай, Туркменістанам і Рэспублікай Узбекістан.
34. Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб прызнанні незалежнасці Чэшскай Рэспублікі і Славацкай Рэспублікі.
35. Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб правапераемнасці Рэспублікі Беларусь у адносінах да Дагавора паміж СССР і ФРГ аб садзейнічанні ажыццяўленню і ўзаемнай ахове капіталаўкладанняў.

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 27 Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання*

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці змяненні і дапаўненні ў наступныя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь:

I. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт. 75):

1. Дапоўніць прэамбулу Закона часткай чацвёртай наступнага зместу:

«Гэты Закон з'яўляецца асновай адзінай падатковай сістэмы Рэспублікі Беларусь і рэгулюе парадак выплаты ў бюджэт Рэспублікі Беларусь падаткаў, збораў і пошлін усімі плацельшчыкамі».

2. Частку другую артыкула 3 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Аб'екты абкладання, парадак выплаты, стаўкі, ільготы па кожнаму канкрэтнаму віду падатку і збору прадугледжваюцца спецыяльнымі актамі падатковага заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Уключэнне палажэнняў, што рэгулююць пытанні падаткаабкладання, у іншыя акты заканадаўства не дапускаецца».

3. Артыкул 6 дапоўніць новымі часткамі наступнага зместу:

«Прадпрыемствы-плацельшчыкі абавязаны да надыходу тэрміну плацяжу здаць плацежнае даручэнне адпаведным установам банка на пералічэнне плацяжоў у бюджэт.

Пры адсутнасці ва ўстанове банка даручэнняў на пералічэнне плацяжоў у бюджэт падатковыя органы пасля заканчэння тэрмінаў выплаты даюць распараджэнні на прымусовае спагнанне.

Банкі прымаюць да выканання даручэнні і распараджэнні на пералічэнне плацяжоў у бюджэт».

4. У артыкуле 9:

пункт 5 пасля слоў «штраф у трайным размеры» дапоўніць словамі «даналічанай сумы падатку»;

у пункце 6 выключыць словы «за кошт прыбытку, які застаецца ў распараджэнні плацельшчыка»;

---

* *Апублікаваны ў газетах: «Звязда» і «Народная газета» 19 студзеня 1993 года.*

у пункце 10 слова «прадпрыемстваў» замяніць словам «плацельшчыкаў»;

пункт 10 дапоўніць новымі часткамі наступнага зместу:

«Банкі абавязаны выканаць прадпісанні дзяржаўных падатковых органаў аб поўным або частковым прыпыненні аперацый падаткаплацельшчыка (кліента банка) па разліковых і іншых рахунках у дзень паступлення прадпісання. У выпадку невыканання прадпісання дзяржаўнага падатковага органа аб прыпыненні аперацый падаткаплацельшчыка (кліента банка) на кіраўнікоў банкаў падатковым органам накладаецца адміністрацыйны штраф у размеры да пяцікратнай месячнай мінімальнай заработнай платы.

У выпадку неаднакратнага парушэння прадпісанняў падатковыя органы ставяць перад Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь пытанне аб пазбаўленні дадзенага банка ліцэнзіі на ажыццяўленне банкаўскай дзейнасці.

Банкам забараняецца затрымліваць выкананне даручэнняў падаткаплацельшчыкаў на пералічэнне ў бюджэт падаткаў і іншых абавязковых плацяжоў у бюджэт.

У выпадку невыканання ў тэрміны, указаныя ў прадпісанні дзяржаўнага падатковага органа, па віне банка плацежнага даручэння падаткаплацельшчыка або распараджэння падатковага органа з гэтага банка па распараджэнню дзяржаўнай падатковай інспекцыі спаганяецца ў бяспрэчным парадку пеня ў размеры 0,2 працэнта нявыплачанай сумы за кожны дзень пратэрміноўкі плацяжу пачынаючы з устаноўленага тэрміну выплаты. Спагнанне пені не вызваляе банк ад іншых відаў адказнасці»;

у пункце 11 словы «ад 500 да 3000 рублёў» замяніць словамі «ад двух- да пяцікратнай месячнай мінімальнай заработнай платы»;

у абзацы другім пункта 12 словы «ад 200 да 2000 рублёў» замяніць словамі «ад адна- да трохкратнай месячнай мінімальнай заработнай платы»;

у абзацы трэцім пункта 12 словы «ад 3000 да 10000 рублёў» замяніць словамі «ад пяці- да дзесяцікратнай месячнай мінімальнай заработнай платы» і выключыць словы «са спагнаннем усёй сумы выручкі, атрыманай ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) ад гэтай дзейнасці»;

у абзацах чацвёртым, пятым і шостым пункта 12 словы «ад 500 да 3000 рублёў» замяніць словамі «ад двух- да пяцікратнай месячнай мінімальнай заработнай платы»;

абзац сёмы пункта 12 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«на кіраўнікоў і іншых службовых асоб прадпрыемстваў, а таксама грамадзян, якія займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, не выконваючых патрабаванняў службовых асоб дзяржаўных падатковых інспекцый, што вынікаюць з гэтага Закона,— у размеры ад адна- да пяцікратнай месячнай мінімальнай заработнай платы».

5. У артыкуле 10:

назву артыкула дапоўніць словамі «і непадатковых плацяжоў»;

частку першую пункта 1 пасля слоў «Сумы падаткаў» дапоўніць словамі «непадатковых плацяжоў у бюджэт і фінансавых санкцый»;

у частцы трэцяй пункта 3 словы «Сумы плацяжоў па падатках» замяніць словамі «Сумы падаткаў і непадатковых плацяжоў у бюджэт».

6. Частку першую пункта 1 артыкула 12 пасля слоў «пры збіранні падаткаў» дапоўніць словамі «непадатковых плацяжоў у бюджэт і фінансавых санкцый».

II. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт. 77, № 12, арт. 206):

1. Частку трэцюю пункта 2 артыкула 2 выключыць.

2. У артыкуле 4:

частку першую пункта 2 пасля слова «відэасалонаў» дапоўніць словамі «(акрамя відэапаказу з сурдаперакладам)» і пасля слоў «у памяшканнях» дапоўніць словамі «дзе колькасць месцаў перавышае дзве тысячы (незалежна ад колькасці прададзеных білетаў)»;

пункт 3 выключыць;

у частцы другой пункта 7 лічбу «60» замяніць лічбай «40»;

пункт 9 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«9. Прыбытак ад банкаўскай, лізінгавай, страхавой дзейнасці, ламбардаў абкладаецца падаткам па стаўцы 44 працэнты».

3. У артыкуле 5:

у падпункце «д» пункта 2 словы «лячэбных устаноў, якія фінансуюцца» замяніць словамі «якія абслугоўваюць лячэбныя ўстановы, што фінансуюцца»;

падпункт «е» пункта 2 дапоўніць словамі «медыцынскай тэхнікі, запасных частак да яе, медыцынскіх інструментаў і расходных матэрыялаў на неспецыялізаваных прадпрыемствах»;

падпункт «ж» пункта 2 пасля слова «літаратуры» дапоўніць словамі «газет і часопісаў»;

падпункт «з» пункта 2 пасля слоў «фізкультуры і спорту» дапоўніць словамі «або выкарыстаныя на аплату рахункаў за

набытыя і перададзеныя ўказаным у дадзеным падпункце фондам, прадпрыемствам, установам і арганізацыям таварнаматэрыяльныя каштоўнасці»;

падпункт «к» пункта 2 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«к) суму ў размеры 50 працэнтаў прыбытку прадпрыемстваў папраўча-працоўных устаноў сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь»;

пункт 2 дапоўніць падпунктамі «м», «н», «о» наступнага зместу:

«м) суму прыбытку, фактычна выкарыстаную на стварэнне па ўстаноўленай квоце рабочых месцаў для працаўладкавання інвалідаў і асоб, якім дзяржава прадастаўляе дадатковыя гарантыі занятасці (за вылікам сум, якія кампенсуюцца за кошт сродкаў Дзяржаўнага фонду садзейнічання занятасці);

н) суму прыбытку, атрыманую прадпрыемствамі ад выпуску школьнай мэблі і мэблі для дашкольных устаноў па заказах устаноў народнай адукацыі рэспублікі;

о) суму прыбытку прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў культуры, затраты на ўтрыманне якіх поўнасцю або часткова пакрываюцца за кошт рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў або якія атрымліваюць датацыю з бюджэту, што не перавышае размеру бюджэтнага фінансавання»;

у пункце 3 выключыць словы «а таксама прадпрыемствы, якія належаць на праве ўласнасці творчым саюзам Рэспублікі Беларусь» і дапоўніць яго новай часткай наступнага зместу:

«Вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак прадпрыемствы, якія належаць на праве ўласнасці творчым саюзам Рэспублікі Беларусь (архітэктараў, дызайнераў, пісьменнікаў, журналістаў, кінематаграфістаў, кампазітараў, мастакоў, музычных дзеячаў, тэатральных дзеячаў, фотамастакоў), Гільдыі кінаакцёраў Беларусі, Беларускай канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў, Беларускаму фонду культуры, Літаратурнаму фонду Беларусі, Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны, а таксама створаныя імі творчыя майстэрні (студыі), што адпавядаюць прафесіянальнай накіраванасці гэтых саюзаў, фондаў і таварыстваў»;

частку першую пункта 5 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак прадпрыемствы, якія выкарыстоўваюць працу інвалідаў, калі колькасць інвалідаў у іх складае не менш 50 працэнтаў ад сярэдняспісачнай колькасці прамыслова-вытворчага персаналу»;

пункт 7 дапоўніць сказам наступнага зместу:

«Ільгота вызначаецца паквартальна»;



частку першую пункта 8 дапоўніць словамі «акрамя гандлёвай і гандлёва-закупачнай дзейнасці»;

дапоўніць артыкул пунктамі $9^1$, $9^2$, $9^3$, $9^4$, $9^5$ наступнага зместу:

«$9^1$. Даходы, атрыманыя ад правядзення міжнародных і рэспубліканскіх фестываляў, конкурсаў і аглядаў, пералік якіх штогод зацвярджаецца Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь, падаткам на даходы не абкладаюцца.

$9^2$. Даход ад біржавой і брокерскай дзейнасці змяншаецца на суму фактычных затрат на расшырэнне (развіццё) вытворчасці, пагашэнне банкаўскіх крэдытаў, атрыманых на гэтыя мэты пры недастатковасці ўласных крыніц, у межах да 15 працэнтаў падаткаабкладаемага даходу.

$9^3$. Сумы падаткаў на прыбытак і даходы арэндных прадпрыемстваў змяншаюцца на суму арэнднай платы, выплачанай за арэнду маёмасці, якая належыць на праве ўласнасці дзяржаве і здадзена ў арэнду па ўзгадненню з органамі Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь або з іншым упаўнаважаным ім органам.

Сумы арэнднай платы за арэнду дзяржаўнай маёмасці, якая здаецца ў арэнду па ўзгадненню з органамі Камітэта па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, поўнасцю пералічваюцца ў даход адпаведнага бюджэту.

$9^4$. Сума падатку на прыбытак прадпрыемстваў, якія не з'яўляюцца ўласнікамі каштоўнасцей, унесеных у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, змяншаецца на суму сродкаў, фактычна накіраваную на мэты вывучэння гісторыка-культурнай спадчыны, выяўлення, захавання, аднаўлення і вяртання ў Рэспубліку Беларусь з-за яе межаў гэтых каштоўнасцей, але не больш 3 працэнтаў ад сумы падатку.

$9^5$. Сума падатку на прыбытак прадпрыемстваў, якія з'яўляюцца ўласнікамі каштоўнасцей, унесеных у Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, змяншаецца на суму сродкаў, фактычна зрасходаваную імі на правядзенне навукова абгрунтаваных даследчых і рэстаўрацыйнааднаўленчых работ, якія датычацца гэтых каштоўнасцей.

Прадугледжанае ў пунктах $9^4$ і $9^5$ гэтага артыкула змяншэнне падатку на прыбытак праводзіцца на падставе даведкі банка, праз які рабілася пералічэнне сродкаў на гэтыя мэты, заверанай дзяржаўным органам аховы помнікаў»;

дапоўніць артыкул пунктам 11 наступнага зместу:

«11. Сума падатку, якая застаецца ў распараджэнні прадпрыемстваў, арганізацый у сувязі з ільготным падаткаабкла-

даннем, прадугледжаным пунктамі 3, 4, 5, 6, 10 гэтага артыкула, падлягае залічэнню ў фонд развіцця і выкарыстоўваецца толькі на развіццё вытворчай базы (будаўніцтва вытворчых магутнасцей, набыццё абсталявання), а па Беларускаму таварыству інвалідаў, Беларускаму таварыству інвалідаў па зроку і Беларускаму таварыству глухіх — на вытворчае і сацыяльнае развіццё. Пры невыкананні дадзеных умоў сума падатку, прадастаўленая ім у выглядзе льготы, забіраецца ў бюджэт.

Ільготны парадак падаткаабкладання прыбытку прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый, прадугледжаны пунктамі 3, 4, 5, 6 гэтага артыкула, не распаўсюджваецца на прыбытак, атрыманы ад гандлёвай, гандлёва-закупачнай і пасрэдніцкай дзейнасці».

4. Частку першую пункта 1 артыкула 10 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Замежныя юрыдычныя асобы (прадпрыемствы, што поўнасцю належаць замежным інвестарам), якія атрымліваюць даходы, не звязаныя з дзейнасцю ў Рэспубліцы Беларусь, выплачваюць падатак у размеры 20 працэнтаў па даходах ад аўтарскіх правоў, ліцэнзій, арэндных плацяжоў і іншых даходах, крыніца якіх знаходзіцца ў Рэспубліцы Беларусь.

Замежныя юрыдычныя асобы, якія атрымліваюць даходы ў выглядзе дывідэндаў, выплачваюць падатак у размеры 15 працэнтаў.

Сумы даходаў, атрыманыя замежнай юрыдычнай асобай у выглядзе працэнтаў, абкладаюцца падаткам па стаўцы 10 працэнтаў»;

у сувязі з гэтым частку другую лічыць часткай чацвёртай.

III. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на дабаўленую вартасць» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, арт. 51, № 12, арт. 206):

1. У артыкуле 3:

дапоўніць артыкул пасля часткі першай новымі часткамі наступнага зместу:

«У абкладаемы абарот уключаюцца сумы грашовых сродкаў, якія атрымліваюцца прадпрыемствамі ў выглядзе фінансавай дапамогі (акрамя сродкаў, якія паступаюць з цэнтралізаваных фондаў міністэрстваў, ведамстваў і бюджэту), папаўнення фондаў спецыяльнага прызначэння або накіроўваюцца ў лік павелічэння прыбытку, сумы перавышэння атрыманых над выплачанымі пені, няўстоек і сумы іншых даходаў ад пазарэалізацыйных аперацый (акрамя сум санкцый і пені, якія ўносяцца ў бюджэт).

У абкладаемы абарот не ўключаюцца даходы, якія абкладаюцца падаткам на даходы, а таксама сумы грашовых сродкаў, якія атрымліваюцца прадпрыемствамі, арганізацыямі і ўстановамі Беларускага таварыства інвалідаў, Беларускага таварыства глухіх і Беларускага таварыства інвалідаў па зроку ў выглядзе дабрачыннай дапамогі для вырашэння іх статутных задач.



Да дабрачыннай дапамогі адносіцца дапамога прадпрыемствам, арганізацыям і ўстановам вышэйназваных таварыстваў, накіраваная на развіццё іх матэрыяльна-тэхнічнай базы, фінансаванне штатных работнікаў пярвічных арганізацый, аказанне матэрыяльнай дапамогі членам таварыстваў, іншыя дабрачынныя мэты, звязаныя з падтрымкай і развіццём гэтых таварыстваў.

Пры рэалізацыі пакупных тавараў (прадукцыі) па цэнах ніжэй цаны набыцця абкладаемы абарот вылічваецца зыходзячы з цаны набыцця рэалізаваных тавараў.

Вылічэнне сумы падатку на дабаўленую вартасць праводзіцца зыходзячы з атрыманай дабаўленай вартасці ў цэлым па прадпрыемству»;

у сувязі з гэтым часткі другую, трэцюю, чацвёртую, пятую, шостую, сёмую, восьмую, дзевятую, дзесятую лічыць адпаведна часткамі сёмай, восьмай, дзевятай, дзесятай, адзінаццатай, дванаццатай, трынаццатай, чатырнаццатай, пятнаццатай;

частку пятнаццатую пасля слоў «на дабаўленую вартасць» дапоўніць словамі «вылічваецца зыходзячы з адпускной цаны і стаўкі падатку і»;

дапоўніць артыкул часткай шаснаццатай наступнага зместу:

«Пры рэалізацыі тавараў, імпартаваных з краін, якія не ўваходзяць у рублёвую зону, дабаўленая вартасць, што абкладаецца падаткам, вызначаецца як розніца паміж выручкай ад рэалізацыі гэтых тавараў і затратамі (пры рэалізацыі тавараў за валюту выручка ад рэалізацыі пералічваецца ў рублі па курсу, які каціруецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь). У затраты ўключаюцца: кантрактны кошт тавараў, пералічаны ў рублі па курсу, які каціруецца Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь, сумы выплачанага падатку на імпарт, мытнай пошліны і іншых матэрыяльных затрат, звязаных з рэалізацыяй гэтых тавараў».

2. У артыкуле 4:

частку першую выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Стаўка падатку на дабаўленую вартасць устанаўліваецца ў размеры 25 працэнтаў»;

частку другую выключыць;

у сувязі з гэтым частку трэцюю лічыць часткай другой.

3. У частцы першай артыкула 5:

пункт 9 дапоўніць словамі «а таксама паслугі па дастаўцы газет і часопісаў па падпісцы»;

пункт 12 выключыць;

пункт 15 пасля слоў «платнымі паліклінікамі, урачамі» дапоўніць словамі «ветэрынарнымі лячэбніцамі і»;

пункт 18 пасля слоў «культурна-асветныя» дапоўніць словам «мерапрыемствы»;

у пункце 21 выключыць словы «якія належаць на праве ўласнасці таварыствам інвалідаў, і прадпрыемствы», дапоўніўшы яго словамі «рамонту і індпашыву абутку і адзення, рамонту гадзіннікаў, бытавой тэхнікі, відэапаказу з сурдаперакладам; прадпрыемствы, якія належаць на праве ўласнасці Беларускаму таварыству інвалідаў, Беларускаму таварыству глухіх і Беларускаму таварыству інвалідаў па зроку,— па рэалізацыі выпускаемых імі тавараў (работ, паслуг), акрамя абаротаў па гандлёва-закупачнай і пасрэдніцкай дзейнасці»;

пункт 24 пасля слова «сшыткі» дапоўніць словамі «бялізна для нованароджаных, ранцы, партфелі, сумкі (акрамя спартыўных), пасцельныя рэчы»;

дапоўніць частку пунктамі 29—39 наступнага зместу:

«29) медыцынская тэхніка, прыборы і абсталяванне пры водпуску іх прадпрыемствамі-вырабшчыкамі спажыўцам рэспублікі, а таксама выраб лякарстваў і медыкаментаў;

30) работы і паслугі, звязаныя з будаўніцтвам і рэканструкцыяй аб'ектаў рэлігійнага культу, ажыццяўляемыя за кошт добраахвотных ахвяраванняў;

31) прадукцыя традыцыйных народных мастацкіх промыслаў ручной работы;

32) рэалізацыя насельніцтву рэспублікі санаторна-курортных пуцёвак, а таксама пуцёвак у аздараўленчыя лагеры;

33) рэалізацыя навукова-тэхнічных работ, якія выконваюцца дзяржаўнымі навукова-даследчымі і канструктарска-тэхналагічнымі арганізацыямі, а таксама ўстановамі адукацыі на аснове гаспадарчых дагавораў для спажыўцоў Рэспублікі Беларусь;

34) паслугі па навучанню дзяцей і падлеткаў у гуртках, секцыях, студыях, музычных школах;

35) паслугі пазаведамаснай аховы Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь;

36) выраб дзіцячых цацак з палімерных матэрыялаў і пластмас;

37) выраб кармавога мікрабіялагічнага бялку і кармавых дражджэй для жывёлагадоўлі;

38) работы, якія выконваюцца творчымі саюзамі Рэспублікі Беларусь (архітэктараў, дызайнераў, пісьменнікаў, журналістаў, кінематаграфістаў, кампазітараў, мастакоў, музычных дзеячаў, тэатральных дзеячаў, фотамастакоў), Гільдыяй кінаакцёраў Беларусі, Беларускай канфедэрацыяй творчых саюзаў і культурных фондаў, Беларускім фондам культуры, Літаратурным фондам Беларусі, Таварыствам беларускай мовы імя Ф. Скарыны і прыналежнымі ім прадпрыемствамі, што адпавядаюць прафесіянальнай накіраванасці гэтых саюзаў, фондаў і таварыстваў;

39) выраб газет і часопісаў, выпуск якіх фінансуецца з бюджэту».

IV. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб акцызах» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, арт. 53, № 12, арт. 206):

1. У артыкуле 1:

частку першую пасля слоў «незалежна ад падпарадкаванасці і форм уласнасці, на якой яны заснаваны*» дапоўніць словамі «а таксама фізічныя асобы»;

у частцы другой словы «вінаградныя мацаваныя віны, футра натуральнае і вырабы з яго (акрамя футра труса і вырабаў з яго)» замяніць словамі «вінаградныя і пладова-ягадныя мацаваныя віны, піва, футра натуральнае і футравыя вырабы (акрамя футра труса, зайца, крата, сабакі, кошкі і вырабаў з гэтых відаў футра)».

2. У частцы другой артыкула 2 словы «прадпрыемстваў і арганізацый» замяніць словам «таваравытворцаў».

3. Частку першую артыкула 3 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Стаўкі акцызаў устанаўліваюцца ў працэнтах да выручкі ад рэалізацыі па наступных таварах (вырабах):

| | |
|---|---|
| Спірт з харчовай сыравіны**, лікёра-гарэлачныя вырабы, спіртаўтрымліваючыя вадкія харчовыя і нехарчовыя экстракты | 75 |
| Спірт гідролізны тэхнічны** | 30 |
| Шампанскае, пеністыя і сухія віны, вінаградныя мацаваныя віны | 50 |
| Пладова-ягадныя мацаваныя і лікёрныя віны | 55 |
| Каньяк | 55 |
| Піва пры гадавым аб'ёме вытворчасці да 500 тыс. дал | 25 |
| Піва пры гадавым аб'ёме вытворчасці звыш 500 тыс. дал | 45 |
| Мясная і рыбная далікатэсная прадукцыя | 40 |
| Тытунёвыя вырабы (акрамя III і больш нізкіх класаў) | 60 |
| Тытунёвыя вырабы (III і больш нізкіх класаў) | 55 |
| Футра натуральнае*** і футравыя вырабы (акрамя футра труса, зайца, крата, сабакі, кошкі і вырабаў з гэтых відаў футра) | 40 |
| Футра штучнае | 30 |

| | |
|---|---|
| Шаўковыя тканіны з усіх відаў валокнаў | 20 |
| Дываны і дывановыя вырабы | 65 |
| Шпалеры | 10 |
| Вырабы з хрусталю | 50 |
| Бензін аўтамабільны | 10 |
| Шыны для легкавых аўтамабіляў | 70 |
| Шыны масавыя і буйнагабарытныя для грузавых аўтамабіляў, прычэпаў і паўпрычэпаў | 10 |
| Сінтэтычныя тканіны і сінтэтычныя ніці і валокны | 30 |
| Нафта сырая | 38 |
| Цюль і гардзінныя вырабы | 40 |
| Посуд і вырабы з фарфору | 20 |
| Тэлевізары каляровага адлюстравання | 15 |
| Халадзільнікі і маразільнікі | 15 |
| Грузавыя аўтамабілі (акрамя БелАЗаў) | 15 |
| Трактары | 15 |
| Азотныя ўдабрэнні | 20». |

Спасылку** да артыкула 3 пасля слова «вытворчасці» дапоўніць словамі «віна, вадкіх спіртаўтрымліваючых харчовых экстрактаў, якія выкарыстоўваюцца для вырабу каляровых гарэлак, воцату спіртавога харчовага, а таксама спірту-сырцу для рэктыфікацыі».

V. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на нерухомасць» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 3, арт. 59, № 12, арт. 206):

1. У артыкуле 1 выключыць словы «якія ажыццяўляюць прадпрымальніцкую дзейнасць», дапоўніўшы яго новай часткай наступнага зместу:

«Юрыдычныя асобы, якія фінансуюцца з бюджэту Рэспублікі Беларусь, плацельшчыкамі падатку не з'яўляюцца».

2. У артыкуле 2 словы «юрыдычных асоб» замяніць словам «плацельшчыкаў».

3. У частцы першай пункта 1 артыкула 3 словы «5 працэнтаў» замяніць словамі «3 працэнтаў» і словы «2 працэнты» замяніць словамі «1 працэнт».

4. У артыкуле 4:

абзац другі пункта 1 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«аб'екты сацыяльна-культурнага прызначэння і жылога фонду мясцовых Саветаў народных дэпутатаў, прадпрыемстваў і арганізацый»;

пункт 1 дапоўніць абзацамі наступнага зместу:

«спецыяльнае лабараторнае абсталяванне, прыборы, выпрабавальныя стэнды, палігоны дзяржаўных навукова-даследчых і канструктарска-тэхналагічных арганізацый;

асноўныя фонды вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і сярэдніх навучальных устаноў, якія маюць статус устаноў сістэмы адукацыі;

матэрыяльныя і гісторыка-культурныя каштоўнасці, уключаныя ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь, пры ўмове выканання іх уласнікамі абавязацельстваў, абумоўленых дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны;

аўтамабільныя дарогі агульнага карыстання і збудаванні на іх (масты, пуцеправоды, прыпыначныя і пасадачныя пляцоўкі і павільёны, комплексы будынкаў і збудаванняў упраўлення дарог, асноўнага і нізавога звёнаў дарожнай службы, жылыя дамы для рабочых і служачых, вытворчыя базы, пункты абслугоўвання і аховы мастоў, перапраў, галерэй, устройствы тэхналагічнай сувязі, кантрольна-дыспетчарскія пункты, пляцоўкі адпачынку, устройствы аварыйна-вызыўной сувязі, лінейныя збудаванні па кантролю дарожнага руху);

асноўныя вытворчыя і невытворчыя фонды рэлігійных таварыстваў».

VI. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на экспарт і імпарт» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 6, арт. 102):

Артыкул 4 пасля часткі другой дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«Пры ажыццяўленні здзелак з суб'ектамі гаспадарання з краін Садружнасці Незалежных Дзяржаў падатак на экспарт і імпарт вылічваецца ў цвёрдых стаўках або ў працэнтах да цаны тавару, якая ўключае ўсе ўскосныя падаткі і прадугледжана ў дагаворах на пастаўку (калі іншае не прадугледжана міждзяржаўнымі пагадненнямі). Па гэтых здзелках падатак уносіцца ў бюджэт 5-га і 20-га чысла кожнага месяца зыходзячы з фактычнага аб'ёму знешнегандлёвых здзелак за палову месяца».

У сувязі з гэтым частку трэцюю лічыць часткай чацвёртай.

VII. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб падаходным падатку з грамадзян» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 5, арт. 79, № 12, арт. 206):

1. Пункт 1 артыкула 2 пасля часткі першай дапоўніць новай часткай наступнага зместу:

«Да даходаў, што падлягаюць падаткаабкладанню, адносяцца таксама сумы, якія залічваюцца на асабовыя рахункі работнікаў як у рублях, так і ў замежнай валюце».

У сувязі з гэтым частку другую лічыць часткай трэцяй.

2. У артыкуле 3:

падпункт «а» пункта 1 дапоўніць словамі «маладзёжных фондаў (створаных пры камітэтах па справах моладзі)»;

падпункт «і» пункта 1 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«і) сумы, атрыманыя ад продажу маёмасці, якая належыць грамадзянам на праве прыватнай уласнасці, акрамя даходаў ад продажу гэтай маёмасці пры ажыццяўленні прадпрымальніцкай дзейнасці»;

падпункт «к» пункта 1 дапоўніць спасылкай* наступнага зместу:

«*Не абкладаюцца падаткам даходы грамадзян ад рэалізацыі насення агародніных культур і саджанцаў пладовых дрэў дзяржаўным спецыялізаваным насенняводчым прадпрыемствам Рэспублікі Беларусь»;

у падпункце «т» пункта 1 словы «4000 рублёў» замяніць словамі «пяці месячных мінімальных заработных плат».

3. У артыкуле 4:

пункт 2 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«2. Пры вылічэнні падаходнага падатку льгатуецца поўнасцю заработная плата і іншыя выплаты, звязаныя з выкананнем працоўных абавязкаў, а таксама сумы даходаў ад займання прадпрымальніцкай дзейнасцю, выканання дагавораў грамадзянска-прававога характару, аўтарскія ўзнагароджанні ў размерах, якія не перавышаюць пяці мінімальных заработных плат у месяц (60 мінімальных размераў заработнай платы ў год), наступных катэгорый плацельшчыкаў:

а) асобы, якія захварэлі і перанеслі прамянёвую хваробу, выкліканую вынікамі катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, а таксама інваліды, у адносінах да якіх устаноўлена прычынная сувязь настаўшай інваліднасці з чарнобыльскай катастрофай, з ліку ўдзельнікаў ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС;

б) асобы, якія прымалі ў 1986—1987 гадах удзел у работах па ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС у межах зоны эвакуацыі або занятыя ў гэты перыяд на эксплуатацыі ці іншых работах на ўказанай станцыі (у тым ліку часова накіраваныя і камандзіраваныя), уключаючы ваеннаслужачых і ваеннаабавязаных, прызваных на спецыяльныя зборы і прыцягнутых да выканання работ, звязаных з ліквідацыяй вынікаў дадзенай катастрофы;

в) асобы, якім прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы, Героя Савецкага Саюза, узнагароджаныя ордэнам Славы трох ступеней, інваліды Вялікай Айчыннай вайны або іншыя інваліды з ліку ваеннаслужачых, што сталі інвалідамі з прычыны захворвання, звязанага са знаходжаннем на фронце, інваліды з ліку былых партызан, а таксама іншыя інваліды, прыроўненыя па пенсіённаму забеспячэнню да ўказаных катэгорый ваеннаслужачых;

г) удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны, іншых баявых аперацый з ліку ваеннаслужачых, якія праходзілі службу ў воінскіх часцях, штабах і ўстановах, што ўваходзілі ў склад дзеючых часцей былой Савецкай Арміі, і былыя партызаны;

д) грамадзяне, якія прымалі ўдзел у баявых дзеяннях супраць фашысцкай Германіі і яе саюзнікаў у гады другой сусветнай вайны на тэрыторыі замежных краін у складзе партызанскіх атрадаў, падпольных груп і іншых антыфашысцкіх фарміраванняў;

е) інваліды з ліку асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, ваеннаслужачых Камітэта дзяржаўнай бяспекі і былой Савецкай Арміі, якія сталі інвалідамі з прычыны ранення, кантузіі або калецтва, атрыманых пры выкананні службовых абавязкаў;

ж) інваліды з дзяцінства, а таксама іншыя інваліды I і II груп;

з) бацькі, якія выхоўваюць 6 і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў.

З сум, якія перавышаюць пяць мінімальных заработных плат у месяц (60 мінімальных заработных плат у год), падаходны падатак выплачваецца ў агульнаўстаноўленым парадку.

Ад выплаты падатку вызваляюцца поўнасцю:

а) пенсіянеры, хатнія гаспадыні, студэнты, навучэнцы і школьнікі, выкладчыкі, аспіранты, ардынатары, рабочыя, служачыя, якія ўдзельнічаюць у сельскагаспадарчых работах у саўгасах, калгасах і іншых сельскагаспадарчых прадпрыемствах у перыяд уборкі ўраджаю без залічэння ў спісачны склад і афармлення працоўнымі пагадненнямі,— па заработнай плаце і іншых відах грашовага ўзнагароджання за выкананне гэтых работ;

б) ваеннаслужачыя абавязковай тэрміновай ваеннай службы і прызваныя на вучэбныя або паверачныя зборы ваеннаабавязаных — па грашоваму забеспячэнню, сутачных і іншых сумах, што атрымліваюцца па месцы службы (збораў);

в) грамадзяне, якія пацярпелі ад рэпрэсій, што мелі месца ў перыяд 20—80-х гадоў, і ў далейшым былі рэабілітаваны,— па сумах кампенсацыі, якая выплачваецца па ранейшым месцы работы;

г) грамадзяне — па даходах ад здачы закупачным прадпрыемствам дзікарослых лекавых раслін, ягад, грыбоў, арэхаў, іншай дзікарослай прадукцыі;

д) асобы афіцэрскага складу, прапаршчыкі, мічманы і ваен-

наслужачыя звыштэрміновай службы, асобы радавога і начальніцкага складу органаў унутраных спраў і ваеннаслужачыя органаў дзяржаўнай бяспекі — па грашоваму забеспячэнню, грашовых узнагароджаннях і іншых выплатах, якія імі атрымліваюцца ў сувязі з выкананнем абавязкаў нясення службы».

4. Абзац другі падпункта «б» артыкула 7 пасля слоў «члены калгасаў, кааператываў» дапоўніць словамі «сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак».

5. У артыкуле 8 табліцу ставак падатку выкласці ў наступнай рэдакцыі:

| «Размер месячнага даходу | Размер падатку |
|---|---|
| 1. Да 10-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | 12 % з сумы, якая перавышае месячную мінімальную заработную плату |
| 2. Ад 10-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 15-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 1+15 % з сумы, якая перавышае 10-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 3. Ад 15-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 20-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 2+20 % з сумы, якая перавышае 15-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 4. Ад 20-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 25-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 3+30 % з сумы, якая перавышае 20-кратную месячную мінімальную заработную плату |
| 5. Ад 25-кратнай месячнай мінімальнай заработнай платы+1 руб. і вышэй | Сума падатку па пункту 4+60 % з сумы, якая перавышае 25-кратную месячную мінімальную заработную плату». |

6. Артыкул 9 дапоўніць пунктам 4 наступнага зместу:

«4. З сум, якія налічваюцца да заработнай платы за работу ў раёнах Крайняй Поўначы, прыроўненых да іх мясцовасцях з цяжкімі кліматычнымі ўмовамі, і з сум надбавак за стаж работы ва ўказаных мясцовасцях падатак бярэцца па стаўцы 12 працэнтаў».

7. Назву артыкула 10 пасля слова «ліквідацыі» дапоўніць словамі «і рэарганізацыі», а тэкст артыкула пасля слоў «што ліквідуюцца» дапоўніць словамі «і рэарганізуюцца».

8. У артыкуле 12:

падпункт «б» пункта 1 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«б) сумы матэрыяльнай дапамогі, у тым ліку надбаўкі да пенсій, што выплачваюцца прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі пенсіянерам, якія раней працавалі на гэтых прадпрыемствах, ва ўстановах і ў арганізацыях, а таксама сумы матэрыяльнай дапамогі, у тым ліку на льгатаванне пуцёвак (акрамя санаторных), якія выплачваюцца са сродкаў прафсаюзных арганізацый, калі сумы такой дапамогі перавышаюць чатыры месячныя мінімальныя заработныя платы ў год»;

у пункце 2 словы «ў наступных размерах» замяніць словамі «па стаўках, указаных у артыкуле 8, без прадастаўлення льгот, якія прадугледжаны падпунктам «ц» пункта 1 артыкула 3 гэтага Закона», а табліцу ставак падатку выключыць.

9. Пункт 2 артыкула 13 выключыць.

10. У пункце 1 артыкула 15 табліцу ставак падатку выкласці ў наступнай рэдакцыі:

| «Размер гадавога даходу | Размер падатку |
|---|---|
| 1. Да гадавой мінімальнай заработнай платы | 4 % ад сумы даходу |
| 2. Ад гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 2-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 1+8 % з сумы, якая перавышае гадавую мінімальную заработную плату |
| 3. Ад 2-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 10-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 2+12 % з сумы, якая перавышае 2-кратную гадавую мінімальную заработную плату |
| 4. Ад 10-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 15-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 3+15 % з сумы, якая перавышае 10-кратную гадавую мінімальную заработную плату |
| 5. Ад 15-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 20-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 4+20 % з сумы, якая перавышае 15-кратную гадавую мінімальную заработную плату |
| 6. Ад 20-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 25-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 5+30 % з сумы, якая перавышае 20-кратную гадавую мінімальную заработную плату |
| 7. Ад 25-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. і вышэй | Сума падатку па пункту 6+60 % з сумы, якая перавышае 25-кратную гадавую мінімальную заработную плату»; |

дапоўніць гэты пункт новай часткай наступнага зместу:

«Асоба, якая атрымала аўтарскае ўзнагароджанне, мае права падаць у падатковы орган дэкларацыю ў агульнаўстаноўленыя тэрміны аб атрыманых даходах за год і панесеных расходах для правядзення пераразліку падатку па стаўках, указаных у артыкуле 18 гэтага Закона».

11. Тэкст артыкула 18 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«З даходаў, указаных у артыкуле 17 гэтага Закона, падаходны падатак бярэцца ў наступных размерах:

| Размер гадавога даходу | Размер падатку |
|---|---|
| 1. Да 10-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | 12 % ад сумы даходу |
| 2. Ад 10-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб да 15-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 1+15 % з сумы, якая перавышае 10-кратную гадавую мінімальную заработную плату |
| 3. Ад 15-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 20-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 2+20 % з сумы, якая перавышае 15-кратную гадавую мінімальную заработную плату |
| 4. Ад 20-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. да 25-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы | Сума падатку па пункту 3+30 % з сумы, якая перавышае 20-кратную гадавую мінімальную заработную плату |
| 5. Ад 25-кратнай гадавой мінімальнай заработнай платы+1 руб. і вышэй | Сума падатку па пункту 4+60 % з сумы, якая перавышае 25-кратную гадавую мінімальную заработную плату. |

Пры адсутнасці ў прадпрымальніка месца асноўнай работы пры пераразліку падатку па фактычнаму даходу за год з даходу, які абкладаецца, вылічваецца гадавая мінімальная заработная плата».

12. Пункт 3 артыкула 19 выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«3. Пры атрыманні на працягу года даходу (выручкі) ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадзян, зарэгістраваных у якасці прадпрымальнікаў, падатак утрымліваецца імі ў крыніцы выплаты даходу. Пры кожнай наступнай выплаце праводзіцца пераразлік падатку зыходзячы з агульнай сумы даходу, выплачанай у бягучым годзе па дадзеным месяцы выплаты. Не ўтрымліваецца ў крыніцы выплаты падатак з даходаў, што выплачваюцца грамадзянам, пры прад'яўленні імі пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі ў якасці прадпрымальніка».



13. Частку першую артыкула 21 дапоўніць словамі «без прымянення льгот, устаноўленых гэтым Законам. Пры гэтым не абкладаюцца падаткам даходы гэтых асоб, атрыманыя ад здачы і рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі. Пералік прадукцыі, якая не абкладаецца падаткам, устанаўліваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь».

VIII. У Закон Рэспублікі Беларусь «Аб транзітным падатку» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 6, арт. 95):

1. У артыкуле 1 выключыць словы «і паветраную прастору».

2. У артыкуле 2 выключыць часткі другую, трэцюю, чацвёртую, пятую, шостую і дапоўніць яго новай часткай наступнага зместу:

«Стаўкі транзітнага падатку ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь. Для трубаправоднага транспарту стаўкі падатку ўстанаўліваюцца на аснове міжурадавых пагадненняў».

3. У частцы другой артыкула 3 выключыць словы «чыгуначнага, паветранага і рачнога».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

22 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2061—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 28 Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь па пытаннях падаткаабкладання» з 1 студзеня 1993 года.

2. Устанавіць, што недзяржаўныя вытворчыя прадпрыемствы вызваляюцца ад выплаты падатку на прыбытак, атрыманы ў 1993 годзе, калі з дня іх рэгістрацыі прайшло не больш двух гадоў.

Да недзяржаўных вытворчых прадпрыемстваў адносяцца юрыдычныя асобы, статутны фонд якіх поўнасцю сфарміраваны без прыцягнення дзяржаўных сродкаў, а выручка атрымана ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) уласнай вытворчасці.

3. Адмяніць з 1 студзеня 1993 года дзеянне пункта 3 Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб падатках на даходы і прыбытак прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый» (Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт. 78).

4. Стаўка падатку на прыбытак, які атрымліваецца прадпрыемствамі (акрамя сумесных і замежных) ад рэалізацыі прадукцыі (работ, паслуг) за межы Рэспублікі Беларусь у свабодна канверсуемай валюце, у 1993 годзе змяншаецца на 5 пунктаў.

5. Устанавіць, што пачынаючы з 1 студзеня 1993 года калгасы, саўгасы, сялянскія (фермерскія) гаспадаркі, падсобныя сельскія гаспадаркі прамысловых прадпрыемстваў і іншыя сельскагаспадарчыя прадпрыемствы незалежна ад форм уласнасці вызваляюцца ад выплаты ў бюджэт падатку на дабаўленую вартасць па выробленай імі сельскагаспадарчай прадукцыі, што рэалізуецца спажыўцам Рэспублікі Беларусь.

6. У 1993 годзе прадпрыемствы, якія выконваюць па заказах насельніцтва паслугі па вырабу і рамонту адзення і абутку, рамонту гадзіннікаў, складанай бытавой тэхнікі і радыёэлектроннай апаратуры, паслугі цырульняў, лазняў і пральняў, выплачваюць падатак на дабаўленую вартасць па стаўцы 12 працэнтаў.

7. Стратным у 1992—1993 гадах прадпрыемствам Беларускага рэспубліканскага саюза прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання насельніцтва Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь можа прадастаўляцца ва ўстаноўленым парадку на 1993 год крэдыт па падатку на дабаўленую вартасць (адтэрмінаваны плацеж) тэрмінам на адзін год з далейшай выплатай гэтага падатку на працягу 1994 года штомесяц роўнымі долямі.

8. Сума прыбытку прадпрыемстваў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у межах да 30 працэнтаў балансавага прыбытку, якая накіроўваецца ў фонд развіцця культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь для ажыццяўлення яго статутнай дзейнасці ў 1993 годзе, выключаецца пры вылічэнні сумы прыбытку, які абкладаецца падаткам.

9. Прадаставіць права Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у 1993 годзе:

устанаўліваць парадак ільготнага падаткаабкладання (падатак на прыбытак і на нерухомасць) для прадпрыемстваў, якія ажыццяўляюць канверсію ў адпаведнасці з зацверджанай урадавай праграмай і ажыццяўляюць перапрафіліраванне з прыцягненнем пазыковых сродкаў;



змяншаць размер ставак падатку на дабаўленую вартасць або акцызнага падатку на прадукцыю, якая выпускаецца прадпрыемствамі рэспублікі і не знаходзіць збыту на яе тэрыторыі, узровень цэн на якую перавышае ўзровень цэн на аналагічную прадукцыю, што выпускаецца за межамі рэспублікі;

прымяняць дзяржаўнае рэгуляванне цэн на прадукцыю (работы, паслугі) прадпрыемстваў-манапалістаў, якая пастаўляецца ў Рэспубліку Беларусь, шляхам устанаўлення гранічных узроўняў цэн або рэнтабельнасці. Сума прыбытку, адпаведная перавышэнню ўстаноўленага ўзроўню цэн або рэнтабельнасці на прадукцыю, па выпуску якой прадпрыемствы з'яўляюцца манапалістамі, падлягае ўнясенню ў даход рэспубліканскага бюджэту;

устанаўліваць для ўсіх прадпрыемстваў незалежна ад форм уласнасці нарміруемую (базавую) велічыню сродкаў на аплату працы зыходзячы з мінімальнай заработнай платы. Сума перавышэння нарміруемай велічыні сродкаў, што накіроўваюцца на аплату працы, абкладаецца дадатковым падаткам па стаўцы 30 працэнтаў, які бярэцца ў даход рэспубліканскага бюджэту. Указаны дадатковы падатак бярэцца з усіх прадпрыемстваў, акрамя замежных і прадпрыемстваў з доляй замежнага капіталу ў статутным фондзе больш 30 працэнтаў.

Да сродкаў на аплату працы адносяцца: усе віды заработнай платы (акрамя кампенсацыі і індэксацыі ў сувязі з інфляцыяй), прэміі і заахвочванні, матэрыяльная дапамога, аплата водпускаў, надбаўкі і даплаты, аплата прастояў, выхадныя дапамогі, сумы прадастаўленых сацыяльных ільгот у выглядзе аплаты харчавання, пуцёвак, праезду і г. д., аднаразовыя дапамогі і ўзнагароджанні, прадастаўленне бязвыплатных пазык, кошт прадукцыі і тавараў, якія выдаюцца ў натуральным выражэнні, іншыя выплаты, што носяць індывідуальны характар.

10. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

зацвердзіць парадак вызначэння сярэдняспісачнай колькасці працуючых;

да 1 ліпеня 1993 года распрацаваць і ўстанавіць парадак прадастаўлення падатковых крэдытаў;

праіндэксаваць размер ставак экалагічнага падатку зыходзячы з індэкса змянення аптовых цэн на 1 студзеня 1993 года;

да 1 лютага 1993 года ўнесці ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапанову аб прывядзенні ў адпаведнасць з гэтым Законам раней прынятых заканадаўчых актаў. Да прыняцця Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь рашэння па гэтаму пытанню прадаўжаюць дзейнічаць існуючыя льготы па падатках, прадугледжаныя іншымі законамі Рэспублікі Беларусь;

да 1 лютага 1993 года распрацаваць і ўвесці ў дзеянне сістэму штрафных санкцый за парушэнне дзяржаўнай дысцыпліны цэн;

